

*Практычныя заняткі ў слёсарнай майстэрні.*

## Рабочая змена

### КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

Мінскае сярэдняе гарадское прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча № 107 (ГПТВ № 107) размешчана на адной з хутка растучых ускраін беларускай сталіцы. Для вучняў пабудавалі тут чатырохпавярховы вучэбна-вытворчы корпус, камфартабельны інтэрнат, на чарзе — будаўніцтва плавальнага басейна.

ГПТВ № 107 — адно з 164 навуковых устаноў рэспублікі, рыхтуючых высокакваліфікаваных рабочых для розных галін народнай гаспадаркі.

На думку спецыялістаў, савецкая сістэма прафесіянальнай тэхнічнай адукацыі самая ўсеаб'емная. У яе аснове — не проста перадача юнакам і дзяўчатам пэўнай сумы ведаў і навыкаў па той ці іншай спецыяльнасці, а выхаванне ў будучых рабочых прагі пазнавання і пастаяннага ўдасканальвання, пачуцця рабочага калектывізму і салідарнасці, разумення сваёй вядучай ролі ў грамадстве і на зямлі.

Выхаванкі прафтэхвучылішч на працягу ўсяго курса навучання знаходзяцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні. Акрамя таго, у час вытворчай практыкі вучням выплачваюць 33% ад агульнага заробку.

Вучылішча рыхтуе рабочых 11 спецыяльнасцей — слесараў механа-зборачных работ, па рамонту прамысловага абсталявання і кантрольна-вымяральных прыбораў, вентыляцыйнікаў, электра- і аўтаслёсараў, а таксама электраманцёраў па рамонту прамысловага абсталявання, электрагазазваршчыкаў, выдувальшчыкаў і шліфоўшчыкаў шкловырабаў, каменшчыкаў-агнеадпоршчыкаў.

У раскладзе іх заняткаў стаяць адны і тыя ж назвы прадметаў: спецтэхналогія, матэрыялазнаўства, тэхнічнае чарчэнне, электратэхніка з асновамі прамысловай электронікі. Але чытаюцца гэтыя дысцыпліны абавязкова з улікам будучай спецыяльнасці. Так, па спецтэхналогіі зваршчыкі вывучаюць абсталяванне і тэхналогію зварачнай вытворчасці, а аўтаслесары — эксплуатацыю і рамонт матацыклаў, матаролераў і легкавых аўтамашын. Металісты на матэрыялазнаўстве вывучаюць сталі і сплавы, а электрыкі — праваднікі і ізалятары.

Акрамя спецыяльных прадметаў у расписанне ўключаны і агульнаадукацыйныя — ГПТВ № 107 дае сваім выхаванкам сярэднюю адукацыю. Хімію і літаратуру, гісторыю і фізіку яны вывучаюць нароўні са школьнікамі-старшакласнікамі (паступаюць жа ва ўчылішча ў асноўным падлёткі, закончыўшыя восем класаў агульнаадукацыйнай школы).

Заняткі па агульнатэхнічных і агульнаадукацыйных дысцыплінах вядуцца паралельна і займаюць чатыры дні ў тыдзень. На працягу наступных двух дзён вучні замацоўваюць атрыманыя веды і набываюць практычныя навыкі ў майстэрнях, маючых неабходную колькасць разнастайнага абсталявання. Трэці, апошні год навучання, уключае шасцімесячную практыку на прадпрыемстве, найчасцей на тым, дзе будзе працаваць выпускнік, і самастойную работу над дыпломным праектам.

Але фарміраванне рабочага заўтрашняга дня не абмежавана рамкамі вучэбнага расписання. Будучы слёсар, зваршчык ці шліфоўшчык павінен быць разнабакова развітай асобай, сацыяльна актыўнай і эстэтычна адукаванай. Для дапамогі вучням, каб выхаваць у сябе гэтыя якасці, служаць лекторыі на грамадскіх пачатках, якія знаёмяць іх з пытаннямі права, кіно, спорту і г.д. Клуб „Шукальнік" дае магчымасць сваім членам дакрануцца да слаўнай гісторыі радзімы, да гераізму яе людзей. Шматдзённыя паходы па месцах рэвалюцыйнай і баявой славы савецкага народу, пошукі ўдзельнікаў абароны Мінска 1941 года, сустрэчы і гутаркі з імі, са сваякамі загінуўшых пакідаюць у сэрцах юнакоў і дзяўчат след на ўсё жыццё.

У пачатку новага вучэбнага года ў ГПТВ № 107 урачыста праводзіцца дзень маладога рабочага. Расказы ветэранаў вытворчасці, іх добразычлівасць, парады, увага да заўтрашніх калег, нараджаюць у падлёткаў веру ў правільнасць выбранага шляху.

Дошка аб'яў у вучылішчы штодзень стракатая ад аб'яў аб культпаходах у тэатры, на выстаўкі, аб экскурсіях па памятных месцах Мінска (сярод вучняў нямала моладзі з другіх гарадоў і сёл рэспублікі). Ажыўлена прайшлі сустрэча з беларускім кампазітарам Ю. Семянякам і спеваком Ю. Смірновым, вечар — „аганёк", арганізаваны сумесна са студэнтамі мінскага педвучылішча. А на канцэртах сваіх самадзейных артыстаў — салістаў і музыкантаў — глядзельная зала бывае перапоўнена.

**Э. Трыгубовіч**
фота аўтара

## Куток практычных ведаў

### У здаровым целе — здаровы дух

### САЧЫЦЕ ЗА СВАІМ ТВАРАМ

Скончылася лета, прайшла таксама прыгожая і цёплая восень. Варта ўжо падумаць пра зіму. Многія жанчыны (а асабліва дзяўчаты) наракаюць на тое, што зімою шчокі і нос у іх чырвоныя, а калі становіцца холадна, то месцы гэтыя сінеюць.

Сляды адмаражэння на твары нялёгка ліквідаваць, гэта патрабуе часу і цярплівасці, таму варта ўсім, хто мае з гэтым клопаты, пачаць лячыць яго як найхутчэй, каб перад вострай зімою скура твару вярнулася да нормы.

Перш за ўсё неабходна мыць твар выключна ў мяккай вадзе (ваду можна змякчыць, дадаючы крыху бараксу). Раніцай ахляпваем твар летняю вадою, а вечарам мыем далікатным, тлустым мылам. Штодзень, памыўшы вечарам твар, робім кампрэсы з халоднай і гарачай вады наперамен, дадаючы алуну да халоднай, а бараксу да гарачай вады (0,5 чайной лыжачкі на адзін літр вады). Не надта тоўсты ручнік ці кавалак льнянага палатна, намачыўшы ў гарачай вадзе і выціснуўшы, кладзем на твар і пакідаем на 1—2 мінуты. Адразу ж пасля таго, як знімем гарачы кампрэс, неабходна палажыць на твар іншы ручнік, намочаны ў халоднай вадзе. Гэту аперацыю паўтараем некалькі разоў (у канцы заўсёды павінен быць халодны кампрэс). Высушыўшы твар, змазваем яго маззю з рыбяга тлушчу, якую пакідаем нанач.

Калі праз два месяцы прымянення такіх аперацый, ваш твар не паправіцца, трэба звярнуцца да доктара-дэрматолага. Магчыма, адмарозілі вы твар ужо даўно, і неабходна ў вашым выпадку больш інтэнсіўнае лячэнне. Але праводзіць яго, зразумела, можна толькі пад кантролем лекара.

Неабходна таксама памятаць, што калі на твары выступаюць адзіночныя расшыраныя крывяносныя сасуды, зменных кампрэсаў нельга прымяняць. У такім выпадку трэба таксама звярнуцца да доктара.

Калі ўдасца вам ліквідаваць сляды адмаражэння, трэба памятаць, што найважнейшай справай з'яўляецца адпаведнае забеспячэнне скуры твару ў часе халадоў і змен пагоды. Восенню і зімою неабходна заўсёды перад выхадам на паветра змазаць твар тлустым крэмам — найлепш ланалінавым. Нельга аднак у перыяд халадоў ужываць навільжаючыя крэмы. Гэтыя рады адносяцца таксама да ўсіх асоб, скура твару якіх бывае сухая і далікатная.

**Эскулап**

*У верасні гэтага года ў Беластоку ўдзяляла практычныя парады нашым жанчынам касметычка чэшскай фірмы «Дэрмаколь» Ольга Кноблахава.*

*Фота Я. Цялушэцкага*




— Маё юнацтва, — успамінае Блейк, — звязана з жахамі другой сусветнай вайны, з жахамі нямецкай акупацыі. Мы жылі тады на старынным завулачку са смешнай назвай Батэрслот (Масляная канава) у Ратэрдаме. У мяне не было нейкіх асаблівых схільнасцей, я нічым не адрозніваўся ад сваіх равеснікаў, хіба толькі выглядаў вельмі ўжо юным. Нягледзячы на свае семнаццаць, знешне я заставаўся хлапчуком. Гэта абставіна спачатку параніла маё самалюбства, а потым неаднаразова выручала мяне...

Джорджу Блейку споўнілася семнаццаць, калі нямецка-фашысцкія орды вераломна ўварваліся ў Галандыю. Гэта адбылося 10 мая 1940 года. Маленькая, дрэнна ўзброеная галандская армія хутка адыходзіла ад граніц пад націскам пераўзыходзячых сіл гітлераўцаў. Нямецкая авіяцыя падвергла варварскай бамбардзіроўцы Ратэрдам.

— Малюнак быў страшэнны, — гаворыць Блейк. — Горад працягваў гарэць і дыміцца яшчэ некалькі дзён. Над Ратэрдамам не змаўкаў дзіцячы плач, маці і старыя поўзалі на каленях па развалінах, спрабуючы знайсці пад абломкамі дамоў — а іх было разбурана трыццаць адна тысяча — хоць штосьці з адзення, хатніх рэчаў. Старынны завулачак Батэрслот больш не існаваў...

Зверская расправа над ні ў чым невінаватым насельніцтвам Ратэрдама пакінула глыбокі след у душы Блейка.

— Пераважная большасць насельніцтва Галандыі, — працягвае Блейк, — вельмі варожа адносілася да захопнікаў. Гэта і з'явілася прычынай для фарміравання руху Супраціўлення. Яго ўдзельнікі наладжвалі забастоўкі на буйных прадпрыемствах, сабатавалі злачынныя планы акупантаў, якія спрабавалі вывозіць рабочых на свае заводы ў Германію. Я з цікавасцю сачыў за схваткамі мужных людзей з бандамі галандскіх прыхвасняў гітлераўцаў. І без роздумаў вырашыў далучыцца да руху Супраціўлення.

Блейк змаўкае, робіць жэст рукой і, прыжмурыўшы вочы, гаворыць:

— Помніце, я ў пачатку нашай гутаркі падкрэсліў, што быў вельмі хударлявым хлапчуком. Немцы лічылі мяне школьнікам. Мне ўдавалася без перашкод пераходзіць у такія раёны, дзе ў любога дарослага чалавека патрабавалі дакументы. Для ролі сувязнога я падыходзіў як нельга лепш. Скажу больш: мне даручалі перавозіць з горада ў горад антыфашысцкія лістоўкі, брашуры... Памятаю, аднойчы я атрымаў заданне даставіць у суседні гарадок чарговую партыю падпольнай літаратуры. Набіў да адказу школьны ранец брашурамі, астатнюю частку сунуў пад світэр і стрымгалоў кінуўся на прыпынак трамвая: трэба было паспець на поезд. І раптам на хаду з-пад світэра пасыпаліся брашуры. Я пачаў ліхаманкава іх збіраць. Немец у афіцэрскай форме, які стаяў на прыпынку, спытаў: „Спяшаешся ў школу?" Я прамармытаў штосьці няпэўнае, пахаладзеўшы ад думкі, што папаўся. А немец ці то захацеў паказаць перад публікай сваю „далікатнасць", ці то яшчэ па якіх прычынах узяўся дапамагаць „школьніку", які запыхаўся, сабраць кнігі...

Але сказаць, што выключна сыноўская прыхільнасць цягнула мяне ў Лондан, значыць не сказаць усяго. Маладыя людзі майго ўзросту імкнуліся знайсці найлепшае прымяненне сваім сілам у барацьбе з нямецкімі фашыстамі. Асабіста я меркаваў, што гэта можна зрабіць у Англіі, уступіўшы ў яе ўзброеныя сілы. Мы часта слухалі радыё, уважліва сачылі за барацьбой саюзнікаў і верылі, што настане дзень вызвалення. Я меркаваў: „Тады я і змагу вярнуцца ў Галандыю ў якасці вызваліцеля".

Джордж Блейк расказвае аб перыпетыях, якія яму давялося адчуць на складаным шляху з Ратэрдама ў Лондан. З пашпартамі на чужыя імёны, рызыкуючы кожную мінуту, ён прабіраўся цераз акупіраваную гітлераўцамі Францыю, быў арыштаван пры пераходзе цераз граніцу Іспаніі і кінут у турму. Адтуль пераведзен у канцлагер „Міранда дэль Эбро", дзе ў самых цяжкіх умовах знаходзіліся прадстаўнікі 26 нацыянальнасцей з краін акупіраванай фашыстамі Еўропы.

— Асабліва шмат там было палякаў. Яны, малайцы, выступалі ў ролі застрэльшчыкаў пратэсту і арганізатараў барацьбы. Аднойчы такі пратэст выліўся ў працяглую галадоўку, якая ў многім вырашыла мой лёс і лёс многіх іншых зняволеных. Іспанскія ўлады вымушаны былі пайсці на ўступкі і вызваліць мяне як брытанскага паддангага.

Лондан сустрэў Блейка даволі няветліва: адбыліся строгія допыты. Але к

